

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№9 (верасень), 2016

# Мяжа




**Даверaная асоба кандыдата Аляксандра Меха Рыгор Грык і сам кандыдат апынуліcь у міліцыі**

(старонка 14)

# ЗЬМЕСТ

## У Берасці заклікаюць выйсці на Плошчу

У Берасці з’явіліся налепкі, якія заклікаюць 12 верасня выйсці на Плошчу пад лозунгам сумленных выбараў. Іншага выйсця бальшыня прадстаўнікоў партый, грамадскіх арганізацый і грамадзян, якія жадаюць змяніць жыццё да лепшага, няма.




Толькі сляпому і недумаючаму чалавеку не відаць, што ўлада рыхтуецца зноў да фальсіфікацый выбараў, каб законатворчасцю чарговыя 4 гады займаліся паслухмяныя назначэнцы. Хаця вынікі працы іх папярэднікаў былі ў асноўным шкодныя. Узяць хаця б падатак на тунеядцаў і назначэнне пенсій па-новаму.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-zaklikayuts-vyjstsi-na-ploshchu/

## Уладзімір Вялічкін: Адміністрацыйны рэсурс па-ранейшаму дзейнічае

За выкананнем заканадаўства на Берасцейскай-цэнтральнай выбарчай акрузе №2 будзе сачыць берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін. Ён зарэгістраваны ў якасці незалежнага назіральніка ад Беларускага Хельсінскага камітэту.

Назіральнік распавёў пра асноўныя парушэнні ў працы акруговай камісіі:

– Выбарчым кодэксам іншай працы як пасяджэнне камісіі не прадугледжана, то бок камісія павінна засядаць. Не важна, адзін чалавек, або ўсе трынаццаць. Рашэнні гэтага органа будуць ці то правамоцныя, ці не правамоцныя, калі не будзе кворума. Мы бачым,

што камісія мае нейкія рабочым моманты.

Як адзначыў Уладзімір Вялічкін, паколькі незалежныя кандыдаты і кандыдаты ад партый дэмакратычнага кірунку не маюць адміністрацыйнага рэсурсу – то не могуць прадаставіць столькі ж актывістаў на пікеты, або замовіць такія ж плакаты як праўладныя кандыдаты. І такім чынам, умовы ўдзелу кандыдатаў на практыцы з'яўляюцца няроўнымі.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-vyalichkin-administratsyjny/

## Чачэнцы, якіх не пусцілі ў Польшчу: Вырашылі застацца жыць у Брэсце

"Жыццё маё ў Чачні было нядрэннае: была праца, была машына. Я выдатна сябе адчуваў. Аднак настаў такі момант, які ўсё перакуліў у маім жыцці. Я не мог глядзець на слёзы сваіх дзяцей, на перажыванні сваіх бацькоў. Я вырашыў: хай будзе, што будзе — рызыкну… Ніхто з прысутных і я таксама не будзе казаць пра свае праблемы", — распавядае Еўрарадыё адзін з мігрантаў з Чачні.

Мужчыну ў сераду, 31 жніўня, мы сустракаем на вакзале "Брэст-Цэнтральны". Сёння ён ужо ў 32-ы раз спрабаваў трапіць ў Польшчу. Разам з дзвюма сотнямі сваіх суайчыннікаў 29 жніўня ён разбіў лагер каля памежнага пункту "Брэст". Чачэнцы, у якіх няма шэнгенскіх віз, пратэставалі супраць таго, што польскія памежнікі не пускаюць іх… у Еўрасаюз.

"Маем на Радзіме праблемы, але казаць пра іх не будзем", — усе як адзін адказваюць мігранты. Размаўляць пра гэта катэгарычна адмаўляюцца нават ананімна і не пад запіс.

Што гэта за праблемы і чаму ўцекачы так баяцца пра іх распавядаць? Гэтае пытанне задаём брэсцкаму праваабаронцу Раману Кісляку.

Кісляк: "Людзі называюць самыя розныя прычыны. Напрыклад, наяўнасць беззаконня — на радзіме іх прымушаюць рабіць нейкія рэчы, якія яны не могуць рабіць, таксама людзі знікаюць. Кажуць пра кроўную помсту: чалавека могуць забіць за нейкі ўчынак без рэальнага правасуддзя… Шчыра кажучы, у мяне няма магчымасці

правяраць гэта — кажуць яны праўду ці не”.

Па словах уцекачоў, калі яны трапляюць у Тэрэспаль, то прычыны, з-за якіх яны з’ехалі з Чачні, распавядаюць польскім супрацоўнікам памежных і міграцыйных службаў. Аднак большасць усё адно “разварочваюць” назад у Брэст.

“Палякі (супрацоўнікі памежных і міграцыйных службаў, — Еўрарадыё) нас запытваюць, ці ёсць віза? — расказвае уцякач. — Візы, вядома, няма. Маўляў, калі візу атрымаеце, то тады прыязджайце. А візу чачэнцам не даюць — гэта ўсе ў нас ведаюць, хто ўмее карыстацца інтэрнэтам. Ва ўсіх тут прысутных стаіць адмова ў атрыманні візы”.

Заставацца дзе-небудзь у Расіі яе грамадзяне з Чачні не хочуць. Маўляў, ад тых праблем, што маюць на радзіме, не схаваешся нават на тэрыторыі такой вялікай краіны. Але некаторыя вырашаюць застацца ў Брэсце. Па некаторых дадзеных, у горадзе цяпер знаходзіцца больш за дзве з паловай тысячы чачэнцаў.

“Мы хочам трапіць у тую краіну, дзе выконваецца Жэнеўская канвенцыя, правы чалавека. У краінах, дзе гэтага няма, мы заставацца не хочам. Аднак ёсць людзі, якія ўжо вырашылі застацца ў Брэсце, стаць грамадзянамі Беларусі. Я таксама разглядаю такі варыянт. Мне спадабалася і гасціннасць людзей, і іх стаўленне да нас”, — кажа ўцякач.

Увечары 30 жніўня лагер каля памежнага пункта знік. Мігранты сышлі, бо начаваць на зямлі стала холадна. Па іх словах, паўтараць сваю акцыю яны больш не плануюць, бо мэты дамагліся — прыцягнулі ўвагу СМІ да сваёй праблемы. За час акцыі нікога з іх не затрымалі.

Наш суразмоўца распавядае, што пэўныя зрухі, хоць і павольныя, з боку памежнікаў ужо пачаліся. За аўторак і сераду яны прапусцілі на тэрыторыю Польшчы больш за 50 чачэнцаў. У панядзелак, перад страйкам мігрантаў, у Польшчу трапілі толькі чатыры чалавекі.

http://euroradio.fm/chachency-yakih-ne-puscili-u-polshchu-vyrashyli-zastacca-zhyc-u-bresce

## “Стоп-загон” супраць датэрміновага галасавання

Праваабаронца Зміцер Салаўёў распавёў пра пачатую акцыю “Стоп-загон”.




“Студэнты і студэнткі! Калі вы сутыкнуліся з выпадкамі прымушэння да датэрміновага галасавання, неадкладна паведамляй нам, – напісалі ініцыятары акцыі праз сваю суполку ў сацыяльных сетках (“Стоп-загон” у vk.com і facebook.com). – У выпадку, калі вам патрэбна юрыдычная або псіхалагічная дапамога, таксама паведамляйце”.

Зміцер Салаўёў: Праваабаронцы сумесна з ініцыятыўнай групай студэнтаў распачалі акцыю “Стоп-загон”. Перш-наперш скажу, што мы прымаем і прэвентыўныя меры, каб не парушалася заканадаўства. Прынамсі прынята заява ад кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” да адміністрацый ВНУ з заклікам не парушаць законы Рэспублікі Беларусь, таму што прымус да датэрміновага галасавання супярэчыць нормам закона. Гэта права кожнага вырашаць – калі і як ён пойдзе на галасаванне. Можа чалавек наогул не хоча прымаць удзел у гэтай працэдуры. Да таго ж, варта ўлічваць, што зараз Беларусь упісана ў Балонскі працэс, хаця насамрэч акадэмічныя правы студэнтаў у Беларусі не забяспечаны.

РР: Ці паступае ўжо да вас нейкая інфармацыя ад студэнтаў, якая тычыцца датэрміновага галасавання?

Зміцер Салаўёў: Ёсць ужо каля дзесяці паведамленняў аб

прымусах да такога галасавання ў інтэрнатах, бо там можна націснуць на навучэнцаў пад пагрозай высялення. І людзі вымушаны ісці на датэрміновае галасаванне. А гэта ўжо парушэнне прынцыпаў Балонскага працэса, бо нам патрэбна рэальнае студэнцкае самакіраванне, а не фантомнае. Кіраванне зараз у руках ідыёлагаў ВНУ, якія і займаюцца "выхаваўчай працай". І там, дзе ўбачым рэальныя парушэнні, будзем пісаць скаргі ў пракуратуру і выбарчыя камісіі. Таксама ўсё гэта будзем даводзіць да партнёраў за мяжой. Зараз ужо пачалі збіраць інфармацыю, якая затым і будзе ўлічана ў выніковай справаздачы.

РР: Лукашэнка распарадзіўся «не гнаць людзей на выбары», хаця адсотак датэрміновага галасавання заўсёды – проста велізарны…

Зміцер Салаўёў: Так, больш за 30 адсоткаў ад агульнай колькасць выбаршчыкаў, і каля 40 адсоткаў тых, хто прыняў удзел у галасаванні. Узнікае лагічнае пытанне: навошта людзей гоняць галасаваць датэрмінова? Можа таму, што за той час, што скрыні з бюлетэнямі стаяць, яны знаходзяцца па-за ўвагай назіральнікаў. І з імі можна зрабіць усё што заўгодна. Былі факты, калі бачылі, што выбарчыя скрыні нехта ўскрываў. Таму трэба адыходзіць ад ганебнай практыкі прымусу да галасавання. Мы будзем людзям тлумачыць іх правы.

http://www.racyja.com/palityka/stop-zagon-suprats-daterminovaga/

## Ярмошына: Назіральнікаў будуць трымаць не далей за тры метры ад стала

ЦВК Беларусі рэкамендаваў выбарчым камісіям пры падліку галасоў не адсоўваць назіральнікаў далей трох метраў ад стала, аднак яны могуць быць дапушчаныя і да самога стала. Пра гэта распавяла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ў эфіры праграмы «Трэба разабрацца» на тэлеканале АНТ.

«Гэта наша рэкамендацыя, Цэнтральнай камісіі», — заўважыла Лідзія Ярмошына. Паводле яе слоў, на гэтых парламенцкіх выбарах ёсць выразна вызначанае правіла, што адзін бок стала, дзе будуць падлічвацца бюлетэні з галасамі выбаршчыкаў, павінен быць вольны

для агляду удзельнікаў маніторынгу.

«Гэта абавязковая ўмова, — патлумачыла старшыня Цэнтрвыбаркама. - Што тычыцца метражу, камісія можа нават падпусціць назіральнікаў да стала, калі лічыць магчымым». Па словах старшыні ЦВК, у гэтым пытанні вельмі шмат што залежыць ад паводзінаў назіральнікаў, а таму ў кожным выпадку ён будзе вырашацца суб'ектыўна.

«Тым не менш мы рэкамендавалі, каб гэта адлегласць была не большай за тры метры. Ніхто не будзе вымяраюць адлегласць, яна, вядома, будзе цалкам умоўнай, зыходзячы са здаровага сэнсу, для таго, каб назіральнікі бачылі гэтую працэдуру», - заўважыла яна.

http://nn.by/?c=ar&i=176900

## «Ого, бээнэфавец, я думала, што такія толькі ў Менску засталіся», — апошнія агітацыйныя дні на Берасьцейшчыне

Пікеты пад бел-чырвона-белымі сьцягамі адбыліся ў розных рэгіёнах Берасьцейшчыны ў апошнія агітацыйныя дні. Апазыцыйныя кандыдаты кажуць пра нявер’е ў справядлівы падлік галасоў, але і здымацца з выбараў пакуль не зьбіраюцца.

Карэспандэнт Свабоды наведаў акцыі апазыцыянэраў у апошнія дні агітацыі.

На сустрэчы з кандыдатамі прыходзяць чыноўнікі

Кандыдат Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Валянцін Лазарэнкаў балятуецца па Івацэвіцкай выбарчай акрузе. Карэспандэнт Свабоды завітаў на сустрэчу з кандыдатам у вёсцы Спорава Бярозаўскага раёну.

Летась у Споравe вяскоўцы бунтавалі з нагоды таго, што возера аддалі ў арэнду прадпрымальніку, не параіўшыся зь людзьмі. Тады сацыял-дэмакрат Валянцін Лазарэнкаў дапамагаў вяскоўцам арганізоўваць пратэст. У выніку, арэнду з прыежджым прадпрымальнікам скасавалі.

Нягледзячы на вядомасьць спадара Лазарэнкава ў гэтай вёсцы, на сустрэчу зь ім у сельскі дом культуры прыйшлі толькі каля 20 чалавек.




«Людзі баяцца за сваю працу, сказалі не хадзіць,» — патлумачыў журналісту адзін з тых, хто прыйшоў на сустрэчу.

Валянцін Лазарэнкаў выступіў з палажэньнямі сваёй праграмы, адказаў на пытаньні. Размова ішла спакойна, пакуль прадстаўнікі мясцовых уладаў не пачалі задаваць пытаньні.

«Чаму вы 8 год не працавалі?» — у прыватнасьці папытаўся адзін зь вясковых чыноўнікаў.

«8 год я не працаваў таму, што мяне звольнілі з унівэрсытэту паводле палітычных перакананьняў...»

«Але навошта вы ідзяце па Івацэвіцкай выбарчай акрузе, калі вы магліісьці па Берасьцейскай?» — папытаўся спораўскі чыноўнік у Лазарэнкава, намякаючы на тое, што ён жыве ў Берасьці.

Кандыдат растлумачыў, што паходзіць родам зь Бярозаўшчыны, таму заўсёды тут балятуецца.

Вастрыні сустрэчы надала дыскусія адной з удзельніц сходу з дырэктаркай спораўскага дому культуры пра фальсыфікацыі на выбарах. Спадарыня наўпрост заявіла, што, маўляў, такія «дырэктары займаюцца фальсыфікацыямі выбараў.» У выніку гарачай спрэчкі дэлегацыя чыноўнікаў сышла са сходу.

Пікет сябра партыі БНФ Зьмітра Вараб'я: «Вярнуць зямлю ўласьнікам»

Па Івацэвіцкай выбарчай акрузе апроч Лазарэнкава балятуецца

кандыдат ад партыі БНФ Зьміцер Варабей. Спадар сьцьвярджае, што ён адзін з трох сябраў БНФ, якія ідуць кандыдатамі пад лёзунгам вяртаньня адабранай да 1939 году зямлі.

Карэспандэнт Свабоды завітаў на пікет Зьмітра Вараб’я ў Івацэвічах.

«Ого, бээнэфавец, я думала, што такія толькі ў Менску засталіся,» — першая рэакцыя мінакоў на пікет.

Людзі зьдзіўляюцца пікету пад бел-чырвона-белым сьцягам насупраць Івацэвіцкага райвыканкаму. Відавочна, што гэтая зьява тут нячастая. Адна спадарыня, якая пагутарыла крыху з кандыдатам, потым павярнулася ды кажа:

«Мне ўжо з райвыканкаму нават патэлефанавалі, чаго ты там стаіш. Я ж раней у райвыканкаме працавала, але цяпер на пэнсіі, таму і не баюся.»

Спадар Варабей патлумачыў журналісту, што ў малым горадзе як Івацэвічы, ціск на іншадумцаў адчуваецца:

«Працаваў сакратаром у судзе, у іншых арганізацыях, усюды папракалі за тое, што запаўняю дакумэнты па-беларуску.»

У выніку, кажа Зьміцер, ад дзяржаўнай працы давялося адмовіцца, цяпер ён індывідуальны прадпрымальнік.

Зьміцер Варабей кажа, што быў зьдзіўлены шырокай палеміцы, якая разгарнулася ў інтэрнэце вакол лёзунгу «Вярнуць зямлю яе ўласьнікам да 1939 году.»

Спадар кажа, што з гэтай ідэяй ён ішоў яшчэ на мясцовых выбарах у 2014 годзе:

«А першым гэтую ідэю ўздымаў намесьнік старшыні партыі БНФ Алесь Стральцоў на выбарах у парлямэнт у 2012 годзе. Палеміка, якая зараз разгарнулася ў інтэрнэце, пра тое, што маўляў, зьбіраемся вяртаць зямлю палякам — гэта проста глупства. Сытуацыя ў чым? У нас на сёньняшні дзень яшчэ няма закону аб прыватнай уласнасьці на зямлю ў прынцыпе. Таму трэба спачатку распрацаваць гэты закон. Як у любой цывілізаванай краіне зямлю ва ўласнасьці могуць трымаць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь, няважна якой яны нацыянальнасьці, хоць ён габрэй, хоць немец, хоць кітаец. Галоўнае даказаць свае правы на зямлю.»

Сам Зьміцер Варабей нават на сваёй улётцы падпісаны літвінам.

Пікет Грыка ў Баранавічах: «Якія выбары ў канцлягеры?»

У суседніх з Івацэвічамі Баранавічах пікеты кандыдатаў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі адбываліся нашмат часьцей.

Апроч уласна кандыдацкіх пікетаў, вядомы баранавіцкі грамадзкі «актывіст у канцлягернай робе» Рыгор Грык падаваў у гарвыканкам заяўку на правядзеньне мітынгу «супраць фальсыфікацыяў выбараў». Аднак мітынгаваць забаранілі, спаслаўшыся на закон аб масавых мерапрыемствах.

Таму Рыгор Грык зладзіў пікет пад лёзунгам супраць фальсыфікацыі выбараў скарыстаўшыся правам на пікет як давераная асоба кандыдата ў дэпутаты Мікалая Чарнавуса старэйшага.

Традыцыйна, спадар Грык выйшаў на пікет зладзіўшы пэрфоманс у канлягернай вопратцы.

«У канцлягеры ня можа быць выбараў. Хіба могуць зьняволеныя абіраць сабе наглядчыкаў?» — кажа Рыгор Грык.

Апазыцыянэры кажуць, што выбарчую кампанію карыстаюць як легальную магчымасьць «пагутарыць зь людзьмі на вуліцы пад бел-чырвона-белымі сьцягамі».

http://www.svaboda.org/a/27978071.html

## З бальной галавы на здаровую

У апошні дзень галасавання 11 верасня на выбарчым вучастку № 10 Брэсцкай Цэнтральнай выбарчай акругі № 2 у СШ 3 г. Брэста было выяўлена парушэнне ч.4 арт 52 ВК «Кожны выбаршчык галасуе асабіста» - факты калектыўнага галасавання, у кабіну для галасавання заходзіла па 2 і больш фізічна здаровых выбаршчыкаў.

Сей факт быў зафіксаваны на фота.

Намеснік старшыні камісіі Наталля Цімашэнка патлумачыла, што бальным людзям, «кепска бачаць ці рукі трасуцца» могуць дапамагаць сваякі.

Могуць але хворым, тым «якія не могуць запоўніць бюлетэнь самастойна». Здаровыя і самі дадуць сабе рады.

Што да метадычных рэкамендацый, дык Наталля Цімашэнка




лічыць, што яны ўкладаюцца «быле кім, і ім (камісіі) не ўказ – ёсць Закон і яны яго выконваюць»

## Інцыдэнт на выбарчым вучастку

10 верасня на выбарчым вучастку № 6 Кобрынскай выбарчай акругі № 12 а 11 гадзіне давераная асоба кандыдата Аляксандра Меха Віталій Малдуноў выказаў жаданне азнаёміцца са станам пячаткі на скрыні для датэрміновага галасавання. Намеснік старшыні камісіі Марыя Мікалаеўна Клачкова ў грубай форме не дапусціла яго да агляду скрыні. На думку даверанай асобы яна наўмысна правакавала канфлікт.

А 18-45 іншая давераная асоба кандыдата Аляксандра Меха Рыгор Грык у прысутнасці назіральнікаў АБСЕ папрасіў дазвол у той сама Марыі Клачковай на фатаграфаванне скрыні.

«Мы Вам ужо дазвалялі, больш не дазволім!», - адказала намесніца старшыні камісіі і ўзяла мяне за руку і адштурхнула ад скрыні», - распавядае Рыгор Грык: «Пасля чаго выклікала міліцыю, маўляў я яе штурхтуў».

Міліцыя настойліва «запрашала» даверaную асобу Рыгора Грыка на пастарунак, але ў прысутнасці міжнародных назіральнікаў не наважылась яго туды «падвезці».

Назіральнікам АБСЕ скрыню датэрміновага галасавання


комиссии Клочкович Марии Николаевны.
3. За грубое нарушение избирательного законодательства прошу Вас расформировать участковую избирательную комиссию № 6.

Приложение:

Копия удостоверения Молдунова Виталия Ивановича, доверенного лица кандидата в депутаты Палаты Представителей Республики Беларусь Меха Александра Васильевича.

11.09.2016 В.И. Молдунов

ВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ШОСТАГА СКЛІКАННЯ
11 сентября 2016 г.
(дата выбараў)

ПАСВЕДЧАННЕ
(сапраўднае пры прад'яўленні дакумента, што пасведчвае асобу)
Молдунов Виталий Иванович
(прозвішча, імя, імя па бацьку)
зарэгістраваны даверанай асобай кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь
Меха Александра Васильевича
(прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў дэпутаты) вылучанага
па [illegible] (назва выбарчай акругі) выбарчай акрузе №____.
Старшыня акруговай выбарчай камісіі (подпіс) А.В. [illegible] (ініцыялы, прозвішча)
М.П.
08.09. 2016 г.
(дата выдачы)



паказалі, а вось даверaную асобу кандыдата Аляксандра Меха так і не дапусцілі да скрыні.

11 верасня даверaная асоба кандыдата Аляксандра Меха Віталій Малдуноў звярнуўся са скаргай у камісію Кобрынскай выбарчай акругі № 12 з патрабаваннем правесці праверку па факту інцыдэнту, даць яму прававую ацэнку і расфармаваць камісію вучастка для галасавання № 6.

## Даверaная асоба лічыць, што загадчыца крамай парушыла п.1 ч.2 арт. 73 выбарчага кодэкса

«Мы не будзем размяшчаць агітацыйны плакат Сяргея Пятрухіна, а іншых кандыдатаў калі ласка, акрамя Вашага Сяргея Пятрухіна», - адказала загадчыца крамы «Наш магазін», што па вуліцы Брэсцкіх Дывізій 24, Ціхава Л.І. даверанай асобе кандыдата у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Сяргея Пятрухіна Сяргею Вакуленка 5 верасьня.

«У паводзінах загадчыцы», - піша 9 верасня ў скарзе да старшыні Брэсцкага гарвыканкама даверaная асоба кандыдата Сяргей Вакуленка: «я пабачыў незадаволенасць і агіду, якая прагучала ў словах «Пятрухін ваш склочнік і вы таксама ад яго нічым не адрозніваецесь!»

Сяргей Вакуленка лічыць, што загадчыца крамай парушыла п.1 ч.2 арт. 73 выбарчага кодэкса «Прыцягненне асоб, якія знаходзяцца ў

падпарадкаванні, ці іншай службовай залежнасці, для ажыццяўлення ў працоўны час дзейнасці, якая спрыяе ... абранню».

«Плакат кандыдата Брыча, які канкуруе па першай выбарчай акрузе з Сяргеям Пятрухіным размешчаны ў тамбуры крамы. Гэтая крама гандлюе між іншым хлебам, які вырабляецца на ААТ «Берасцейскі пекар», генеральным дырэктарам якога з“яўляецца кандыдат Брыч», - удакладняе Сяргей Вакуленка: «Я бачу відавочную службовую залежнасць загадчыцы крамы Ціхавай, якая ў працоўны час спрыяе абранню кандыдата Брыча»

## Давераная асоба кандыдата Аляксандра Меха Рыгор Грык і сам кандыдат апынулісь у міліцыі




12 верасня а 11-30 давераная асоба кандыдата па кобрынскай выбарчай акрузе № 12 Аляксандра Меха Рыгор Грык быў дастаўлены ў РАУС Кобрынскага раёну. Яму патлумачылі, што трэба ўзяць у яко тлумачэнні па факце адміністратыўнага правапарушэння.

Задавалі пытанні: Дзе праводзіў пікет, у што быў апрануты, што распаўсюджваў.

Давераная асоба не разумее зацікаўленнасці ягонай асобай з боку міліцыі, бо ўсе мерапрыемствы праводзіліся ў адпаведнасці з выбарчым заканадаўствам, пасьля падачы заяўкі на іх правядзенне.

На кароткі час, на абед, Рыгор Грык быў выпушчаны, да 14-30.

Пасля абеду ў РАУС прыбыў кандыдат Аляксандар Мех, яму патлумачылі, што Рыгор Грык на загад маёра Паўлені з Баранавічаў у суправаджэнні 2 маёраў, старшых інспектароў міліцыі, Ігара Місюры і Андрэя Хоміча будзе адпраўлены ў Баранавічы ў рамках "адміністратыўнай справы".

Пасля чаго кобрынская міліцыя ўзялася за самаго кандыдата Меха. У міліцыі з'явілась патрэба ўзяць тлумачэнні ў кандыдата. Пачалі з пікета каля рэстарана "Кобрын": "Чаму, менавіта там?" Больш нічога не пыталі хадзіл туды-сюды, праз гадзіну выпусцілі.

У гэты момант тэлефон Рыгора Грыка на званкі не адказвае.

## 65 гадоў таму ў Беларусь дэсантаваўся Янка Філістовіч

9 верасня 1951 году пад Маладэчнам дэсантаваўся Янка Філістовіч, беларускі дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, герой антысавецкага супраціву. Роўна год ягоная група вяла няроўнае змаганне з саветамі.

Нарадзіўся Янка Філістовіч 90 гадоў таму – 14 студзеня 1926 году (паводле іншых звестак – 1927-га) у вёсцы Паняцічы (цяпер Вілейскі раён). Яго дзяцінства і юнацтва прайшлі ў Заходняй Беларусі. У час другой сусветнай вайны Філістовіч у траўні ці ўвосень 1943-га быў мабілізаваны ў 13-ы паліцэйскі батальён, які размяшчаўся ў Вялейцы і ў Менску. Перад прыходам Чырвонай Арміі эміграваў у Нямеччыну. У жніўні 1944-га вайсковая частка, дзе ён служыў, была накіраваная ў Італію, дзе да студзеня 1945-га брала ўдзел у баях супраць англа-амерыканскіх войск. У лютым 1945 году у Чэхаславаччыне за спробу перайсці да чэшскіх партызанаў Філістовіч быў адпраўлены ў турму гораду Пардубіцэ, адкуль быў вызвалены 8 траўня 1945-га.

Пасля вайны Янка Філістовіч перабраўся ў Францыю. Вывучаў гісторыю ў Сарбонскім (Францыя) і Лювенскім (Бельгія) універсітэтах. Выдаваў часопіс “Моладзь”, быў адным з лідараў Беларускай Незалежніцкай Арганізацыі Моладзі ў Францыі. У Парыжы наладзіў кантакт з Міколам Абрамчыкам, стаў сябрам Рады БНР, упаўнаважаным прадстаўніком ураду БНР. У сакавіку 1951-га ўзяўся

за місію кантактаў беларускіх эміграцыйных уладаў з падполлем на тэрыторыі БССР. Пасля трохмесяцавай рыхтоўлі на базе Каўфбэрэн каля Мюнхену, накіраваны ў раён, з якога паходзіў, у складзе амерыканскага дэсанту.

Праз сваяка Пятра Кушаля Філістовічу ўдалося наладзіць сувязь з групай С. Мікуліча, якая складалася з 5 чалавек і дзеіла на тэрыторыі Іллянскага раёну. З 1949-га Філістовіч пераняў камандаванне групай і зрабіў спробу ператварыць яе ў вайскова-палітычную арганізацыю. Увёў дысцыпліну, праводзіў ідэйную і падпольную рыхтоўлю, забараніў рабаванні і напады на мясцовы актыў. Група "Беларускія нацыяльна-вызвольныя ўзброеныя сілы" і пачала рыхтоўлю да палітычна-прапагандысцкай дзейнасці. У красавіку 1952-га атрад правёў у Вязынцы пад Маладэчнам напад на друкарню, якая выдавала газету "Шлях да камунізму". Партызаны забралі друкарскую машыну. На ёй планавалася друкаваць газету "Жыве Беларусь!", але адсутнасць досведу, а таксама некаторых элементаў не дазволіла ажыццявіць план.

5 верасня 1952-га аператыўнай групай МГБ БССР была праведзеная аперацыя па ліквідацыі групы Філістовіча. У перастрэлцы ў ноч каля вёскі Самалі (Маладэчанскі р-н) гэбістамі былі забітыя Іван Будкевіч і Міхась Петрусевіч, удзельнікі групы. Філістовічу ўдалося ўцячы і ён меркаваў перайсці мяжу з Польшчай, але 9 верасня ў вёсцы Ярмолічы ў выніку здрады быў арыштаваны групай гэбістаў.

У кастрычніку 1953 году ў Мінску Янка Філістовіч быў засуджаны ваенным трыбуналам ваеннай акругі да смяротнай кары. Апошні дакумент, які ён ўласнаручна падпісаў, гэта яго касацыйная скарга ў Ваенную калегію Вярхоўнага суда СССР, якая датуецца 11 лістапада 1953 г. (скарга напісана ў Менску). Пасля гэтай даты Янка Філістовіч, як мяркуецца, быў расстраляны. Супраць яго сваякоў і тых, хто дапамагаў у яго дзейнасці, праведзены рэпрэсіі. Крымінальная справа № 3383 захоўваецца ў Цэнтральным архіве КДБ Рэспублікі Беларусь у Менску.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»